220050, МИНСК, УЛ. К.МАРКСА, 5, КОМН. 5, 8, 14

ТЕЛЕФОНЫ (0172) 27-11-72, 27-11-84, 27-42-17
ФАКС (0172) 27-11-72

Фирма "САНТАНАС" • Р/с №5467179 в филиале №6
АКБ "Беларусь" • МФО 153001 • 809

# САНТАНАС

## ПРЕДЛАГАЕТ АКЦИОНЕРНОЕ ОБЩЕСТВО

### МЕТАЛЛОПРОДУКЦИЯ

| Наименование | Кол-во | Цена |
|---|---|---|
| 1. Квадрат 32x32x400 ст. 0,9Г2С | 10 т | 290000 руб./т |
| 2. Квадрат 30x30x4000 ШХ-15 | 10 т | 290000 руб./т |
| 3. Круг ст. 20x13 ø 150 | 2,8 т | 850000 руб./т |
| 4. Круг ст. 5СП ø 140 | 3,6 т | 310000 руб./т |
| 5. Круг ст. ШХ20 ø 34 | 3,9 т | 250000 руб./т |
| 6. Круг ст. 40ХН2МА ø 120 | 1 т | 360000 руб./т |
| 7. Лист ст. 09Г2С s 3,5 | 10 т | 480000 руб./т |
| 8. Лист 08КП s 0,9 мм | 7,5 т | 630000 руб./т |
| 9. Полоса ст. 40 20x45x4000 | 10 т | 290000 руб./т |
| 10. Проволока ст.45 ø 3,5 мм | 10 т | 350000 руб./т |
| ø 4 мм | 10 т | 350000 руб./т |
| 11. Полоса ст.3 30x70 | 7 т | 380000 руб./т |
| 4x80 | 10 т | 380000 руб./т |
| 10x70 | 5 т | 380000 руб./т |
| 12x100 | 6 т | 380000 руб./т |
| 5x200 | 6 т | 380000 руб./т |
| 6x140 | 5 т | 380000 руб./т |
| 8x140 | 5 т | 380000 руб./т |
| 20x90 | 6 т | 380000 руб./т |
| 20x45 | 5 т | 380000 руб./т |
| 12. Проволока ст. 45 ø 3,5 мм | 5 т | 350000 руб./т |
| ст. 45 ø 4 мм | 20 т | 350000 руб./т |
| 13. Проволока сварочная СВО, 8Г2С ø 1,2 | 10 т | 800000 руб./т |
| 14. Проволока сварочная СВО, 8Г2С ø 1,6 | 10 т | 750000 руб./т |
| 15. Труба ø 146x7,7 | 10 т | 440000 руб./т |
| 16. Труба ø 152x6 | 2 т | 750000 руб./т |
| ø 76x6 | 5 т | 700000 руб./т |
| ø 36x4 | 2 т | 770000 руб./т |
| ø 30x6 | 3,5 т | 600000 руб./т |
| ø 50x3,5 | 3 т | 800000 руб./т |
| ø 60x2,5 | 3 т | 800000 руб./т |
| 17. Труба газовая ø 32x3,2 | 20 т | 865000 руб./т |
| ø 40x3,5 | 20 т | 845000 руб./т |
| 18. Труба нержавеющая 12Х20Н14С2 ø 96x12 | 1т | 1900000 руб./т |
| 19. Труба алюминиевая ø 22x1,8 | 5 т | 2500000 руб./т |
| 20. Труба ø 140x6 | 5,4 т | 755000 руб./т |
| 21. Труба ø 38x3,2 | 6 т | 755000 руб./т |
| 22. Уголок алюминиевый 85x85x10 | 1 т | 2000000 руб./т |
| 23. Труба ГОСТ 8731-74 ø 76x4 | 30 т | 745000 руб./т |
| ø 76x8 | 4 т | 745000 руб./т |
| 24. Шестигранник N 27 | 10 т | 500000 руб./т |
| 25. Швеллер N 6,5 | 5 т | 380000 руб./т |
| 26. Лист ст. 3 СП s 6, 8, 10 мм | 50 т | 500000 руб./т |
| 27. Арматура ø 12 | 60 т | 480000 руб./т |
| 28. Лист нерж. 12x18Н10Т s 12, 16 мм | 10 т | 2500000 руб./т |

**Тел. (0172) 27-42-17.**

### ФИТИНГИ

| Наименование | Размер | Цена |
|---|---|---|
| 1. Контрагайки | 15 | 150 руб./шт. |
| | 20 | 170 руб./шт. |
| | 25 | 200 руб./шт. |
| | 32 | 220 руб./шт. |
| 2. Муфты | 15 | 170 руб./шт. |
| | 20 | 190 руб./шт. |
| | 25 | 240 руб./шт. |
| | 32 | 300 руб./шт. |
| 3. Угольники | 15 | 170 руб./шт. |
| | 20 | 220 руб./шт. |
| | 25 | 290 руб./шт. |
| | 32 | 360 руб./шт. |
| 4. Тройник | 15 | 230 руб./шт. |
| | 20 | 270 руб./шт. |
| | 25 | 320 руб./шт. |
| 5. Сгоны | 15 | 400 руб./шт. |
| | 20 | 400 руб./шт. |
| 6. Отводы | 15 | 400 руб./шт. |
| | 20 | 400 руб./шт. |
| 7. Муфты переходные | 20x25 | 350 руб./шт. |
| | 25x32 | 400 руб./шт. |
| | 32x40 | 450 руб./шт. |
| 8. Радиаторы чугунные МС-140 | | 6300 руб./секция. |

**Тел. (0172) 27-11-84.**

### КАБЕЛЬНАЯ ЭЛЕКТРОТЕХНИЧЕСКАЯ ПРОДУКЦИЯ

| Наименование | Кол-во | Цена |
|---|---|---|
| 1.Светильники ПСХ-60 | 1000 шт. | 1500 руб./шт. |
| НСП-60 | 1000 шт. | 1400 руб./шт. |
| НСП-200 | 1000 шт. | 2000 руб./шт. |
| Лампа ДРЛ-250 | 1000 шт. | 6500 руб./шт. |
| ДРЛ-400 | 1000 шт. | 7000 руб./шт. |
| Лампа ЛД-20 | 20 шт. | 1000 руб./шт. |
| Лампа РБ-30-1 | 20 шт. | 1000 руб./шт. |
| Лампа ЛДУ-36 | 3000 шт. | 1000 руб./шт. |
| 2. Электродвигатели | | |
| 2,2 кВт 1500 об./мин. комб. 380 | 100 шт. | 54000 руб./шт. |
| 2,2 кВт 1500 об./мин. л. 380 | 100 шт. | 52000 руб./шт. |
| 3 кВт 3000 об./мин. ф. 380 | 100 шт. | 52000 руб./шт. |
| 3 кВт 3000 об./мин. л. 380 | 100 шт. | 52000 руб./шт. |
| 1,5 кВт 1000 об./мин. 380 | 100 шт. | 52000 руб./шт. |
| 3. Кнопки КЕ-181 исп. 2 красные | 400 шт. | 1500 руб./шт. |
| КЕ-011 исп. 2 красные | 400 шт. | 1500 руб./шт. |
| КЕ-011 исп. 3 красные | 400 шт. | 1500 руб./шт. |
| 4. Держатель для сварки | 500 шт. | 3000 руб./шт. |
| 5. Магнитные пускатели | | |
| ПМ-12-040-242 закрытый | 100 шт. | 9000 руб./шт. |
| ПМА 3102 220 В | 100 шт. | 8000 руб./шт. |
| ПМА 3602 220 В | 200 шт. | 8000 руб./шт. |
| ПМА 3602 380 В | 50 шт. | 8000 руб./шт. |
| ПМЕ 111 110 В | 200 шт. | 8000 руб./шт. |
| 220 В | 200 шт. | 8000 руб./шт. |
| 380 В | 200 шт. | 8000 руб./шт. |
| ПМЛ 11004 380 В | 200 шт. | 8000 руб./шт. |
| 6. Автоматические выкл. | | |
| А 3161 15А | 6 шт. | 7500 руб./шт. |
| АЕ 2046 3,15 А | 100 шт. | 8100 руб./шт. |
| 6,3 А | 100 шт. | 8100 руб./шт. |
| 5 А | 100 шт. | 8100 руб./шт. |
| 2,5 А | 1000 шт. | 8100 руб./шт. |
| 8 А | 100 шт. | 8100 руб./шт. |
| 4 А | 100 шт. | 8100 руб./шт. |
| 7. Эл. магниты ЭМ-33-71-311-220 В | 100 шт. | 25000 руб./шт. |
| 8. Вилка штепсельная | 10000 шт. | 200 руб./шт. |
| 9. Изолента ПХВ | 1000 кг | 2500 руб./кг |
| 10. Машина для точечной сварки МТР 1201 | 1000 шт. | 950000 руб./шт. |
| МСС-901 | 1000 шт. | 950000 руб./шт. |
| МТ-2202 | 1000 шт. | 850000 руб./шт. |
| 11. Машина для шовной сварки МШН-3701 | 1000 шт. | 900000 руб./шт. |
| 12. Автомат сварочный А1412 с ВДУ1202 | 1000 шт. | 900000 руб./шт. |
| 13. Трансформатор тока ТО.66 300 А | 1000 шт. | 100000 руб./шт. |
| 100 А | 1000 шт. | 100000 руб./шт. |
| 14. Трансформатор сварочный ТС-200 | 20 шт. | 72000 руб./шт. |
| 15. Дросель ДБИ-125 | 1000 шт. | 2100 руб./шт. |
| ДБИ-700 | 1000 шт. | 2100 руб./шт. |
| ДБИ-1000/ДРЛ-200 | 1000 шт. | 5000 руб./шт. |
| 16. ПВ-1 | 10000 м | 160 руб./м |
| 17. ПВ-2x1,5 | 1000 м | 300 руб./км |
| 18. АПВГ 2x2,5 | 10000 м | 295 руб./м |
| 19. АПВГ 4x4 | 10000 м | 650 руб./м |
| 20. АПВГ 2x4 | 30000 м | 400 руб./м |
| 21. АПВГ 2x5 | 1000 м | 420 руб./м |
| 22. АППВ 2x2,5 | 10000 м | 200 руб./м |
| 23. ПВГ 2x1,5 | 1000 м | 300 руб./м |
| 24. НБР 2x1 | 1000 м | 220 руб./м |
| 25. АПВ-4 | 10000 м | 170 руб./м |
| 26. АПВГ 2x2,5 | 10000 м | 290 руб./м |
| 27. ТРП 2x0,4 | 10000 м | 60 руб./м |
| 28. АВВГ 4x4 | 380 м | 650 руб./м |
| 29. ПТВГ 2x2,5 | 200 м | 360 руб./м |
| 30. АВВГ 3x6+1x4 | 340 м | 650 руб./м |
| 31. АПВ 6 | 2000 м | 200 руб./м |
| 32. АПВ 8 | 2000 м | 230 руб./м |
| 33. АПВ 10 | 10000 м | 260 руб./м |
| 34. ПВГ 2x0,6 | 3000 м | 150 руб./м |
| 35. ППВГ 2x1,5 | 500 м | 600 руб./м |
| 36. АПВГ 4x10 | 2900 м | 2200 руб./м |
| 37. РПШ 12x1,5 (кусками) | 700 м | 9000 руб./м |
| 38. КПСВГЭ 7x1,5 | 1000 м | цена договорная |
| 39. АКПСВГ 4x2,5 | 435 м | цена договорная |
| 40. АКПСВГ 10x6 | 1000 м | цена договорная |
| 41. КВВГ 5x1,5 | 600 м | цена договорная |
| 42. АВВГ 3x4+2x2,5 | 500 м | цена договорная |
| 43. АВВГ 3x6+1x4 | 230 м | цена договорная |
| 44. Эмаль=провод | 1000 м | цена договорная |
| 45. Сварочный кабель | 1000 м | цена договорная. |

**Тел. (0172) 27-11-72.**

### МАШИНОСТРОЕНИЕ

| Наименование | Кол-во | Цена |
|---|---|---|
| 1. Автопогрузчик 40810 г/п 5 т (Львов) двигатель Д243 (дизель) | 1 шт. | 20910000 руб./шт. |
| 2. Автопогрузчик 40814 г/п 5 т (Львов) | 1 шт. | 12158000 руб./шт. |
| 3. Полуприцеп МАЗ 9397040 с тентом 3-осный | 2 шт. | 14000000 руб./шт. |
| 4. Электропогрузчик г/п 2 т ЕВ 717 (Болгария) | 1 шт. | 18419000 руб./шт. |
| 5. Электрокар ЕС 301.2 (Болгария) самосвал | 1 шт. | 12715000 руб./шт. |
| 6. Аккумуляторная батарея 2+40x4 А | 1 шт. | 5780000 руб./шт. |
| 7. Электропогрузчик ЭП 103 К г/п 1 т | 1 шт. | 6800000 руб./шт. |
| 8. Электропогрузчик ЭП 205 ИГ г/п 2 т щелочной | 1 шт. | 8000000 руб./шт. |
| 9. УАЗ 3303 (бортовой) | 2 шт. | 16000000 руб./шт. |
| 10. Сварочные полуавтоматы СПАР, предназначенные для сварки в среде защитного газа | | |
| а) СПАР 20-70-1 | | 1050000 руб./шт. |
| б) СПАР 20-70-2 | | 1150000 руб.шт. |
| в) пуско-зарядное устройство СПАР 12-300 | | 650 руб./шт. |
| г) пусковое устройство СПАР 300 | | 600 руб./шт. |

**Тел. (0172) 27-11-84.**

| Наименование | Кол-во | Цена |
|---|---|---|
| 1. Изолента ПХВ | 1 т | 2500 руб./кг |
| 2. Труба 76x4 | 40 т | 850 руб./т |
| 3. Светильники ПСХ | 500 шт. | 1500 руб./шт. |
| НСП 60 | 500 шт. | 1400 руб./шт. |
| НСП 200 | 500 шт. | 2000 руб./шт. |
| Лампы ДРЛ 250 | 300 шт. | 6500 руб./шт. |
| 400 | 300 шт. | 7000 руб./шт. |
| 4. Провод ПВ 1 | 3000 м | 150 руб./м |

**Продукция реализуется со склада в Бресте**

**Тел. в Бресте: 44-88-00, 44-84-14.**

### ЛАКОКРАСОЧНАЯ ПРОДУКЦИЯ

| Наименование | Кол-во | Цена |
|---|---|---|
| 1. Краска фасадная К4-1222 | 5000 кг | 360 руб./кг |
| 2. Эмаль МЛ различных цветов | 3000 кг | 2500 руб./кг |
| 3. Краска коричневая масляная | 5000 кг | 800 руб./кг. |

**КУПИМ КРАСКУ.**

**Тел. (0172) 27-11-72.**

### ДРУГИЕ ВИДЫ ПРОДУКЦИИ

| Наименование | Кол-во | Цена |
|---|---|---|
| 1. Петли оконные | 40 | цена договорная |
| | 60 | цена договорная |
| | 80 | цена договорная |
| 2. Петли дверные | левая | цена договорная |
| | правая | цена договорная |
| 3. Ключи гаечные 12x13 | 1000 шт. | 160 руб./шт. |
| 14x17 | 1000 шт. | 180 руб./шт. |
| 4. Плита газовая "Таганок-2" | 100 шт. | 20000 руб./шт. |
| 5. Вата "Прима" (мебельная) | 30000 кг | 900 руб./кг |
| 6. Комплекс технических средств автоматизированных проходных | | 4900000 руб./комплекс |
| 7. Мешок полиэтиленовый | 200 шт. | 130 руб./шт. |
| 8. Цепь привязная для КРС | 16000 шт. | 950 руб./шт. |
| 9. Рукавицы брезентовые | 1000 шт. | 650 руб./пара |
| 10. Устройство цифровой индикации линейных перемещений и размеров (комплект с датчиками) | | 310000 руб./шт. |
| 11. Окучник к агрегату КОН-2,8 | 100 шт. | 6500 руб./шт. |
| 12. Комплект фрез | 3 комплекта | 420000 руб./комплект |
| 13. Прибор-индикатор контроля термической обработки "Пикот-2" | | 2400000 руб./шт. |
| 14. Смеситель "Дождик" | 40 шт. | 18000 руб./шт. |
| 15. Вентиль лат. ø 15 | 2000 шт. | 1550 руб./шт. |

Имеется широкий ассортимент лампочек автомобильных и технологического оборудования для мясоперерабатывающей отрасли АПК.

**Тел. (0172) 27-11-84.**

# САНТАНАС

## ГАРАНТИЯ И НАДЕЖНОСТЬ ДЕЛОВЫХ ОТНОШЕНИЙ!